

# ДЗІДА

ІНФАРМАЦЫЙНЫ ВЕСЬНІК
ГАРАДЗЕНСКАЕ АРГАНІЗАЦЫІ
«МАЛАДОГА ФРОНТУ»

№1
СЬНЕЖАНЬ
1999

## Ці ведаеш ты, што такое МФ?

***Многія з нас цьмяна разумеюць што ж сабою ўяўляюць тыя ці іншыя моладзевыя арганізацыі.***

***Незаўсёды яны палітычнага накірунку ды не заўсёды перасьледуюць мэты палітадукацыі моладзі. Многія з такіх арганізацыяў імкнуцца павялічыць культурны ды інтэлектуальны ўзровень сучасных маладых людзей. Да іх ліку належыць Малады Фронт.***

МФ-моладзевая арганізацыя, якая акрамя палітычных акцыяў праводзіць і віктарыны ў школах, разьвіваючы тым самым у моладзі пачуцьцё патрыятызму. Віктарыны прысьвечаныя пераважна гісторыі Беларусі й Горадні Праз МФ адбываюцца знаёмствы з сучаснай беларускай музыкай розных напрамкаў, арганізоўваюцца канцэрты ды іншае.

Але больш падрабязна аб дзейнасьці Маладога Фронту ў Горадні мы папрасілі распавесьці кіраўніка Гарадзенскае арганізацыі сп. Андрэя Мялешку.

**- Як паўстаў гарадзенскі Малады Фронт?**

*А.М.* Першая суполка Маладога Фронту паўстала ў верасьні 97 году на базе ХДСМ. Гэта былі пераважна студэнты унівэрсытэту, працоўная моладзь. Гэтыя людзі на той час былі заангажаваныя ў пэўных беларускіх справах.




**- Распавядзі, калі ласка, пра дзейнасьць арганізацыі.**

*А.М.* Мы пачалі ўдзельнічаць у пікетах, пасьля рабілі шоў-віктарыны ў школах. Потым некаторыя асобы пачалі займацца беларускімі кнігамі ды касэтамі, CD. Дапамагалі ў арганізацыі канцэрту "N.R.M." паўстаў і адыйшоў ў войска наш гурт "М.Ф.". Сярод найбольш удалых ды гучных акцыяў І і ІІ Алімпіяды МФ, у якіх прыняло ўдзел калятрохсот чалавек, ўдзел у летніках, акустычныя канцэрты, беларускія сьвяты, літаратурныя чытаньні ды шмат іншага.

**- Зь якімі іншымі моладзевымі арганізацыямі вы супрацоўнічаеце?**

*А.М.* Падтрымліваем сувязі з "Маладой Грамадой", Чырвоным Жондам, Альянсам імя Вітаўта Вялікага, Антыфашыстоўскім моладзевым цэнтрам ды іншымі, дарэчы, ня толькі гарадзенскімі.

**- Вашая рэакцыя на зьяўленьне ў Горадні РНЕ?**

*А.М.* Гэта штучнае ўтварэньне. Рэакцыя рэзка адмоўная. Разам з Антыфашыстоўскім цэнтрам будзем нешта рабіць з гэтым брудам.

**- Вашыя пляны на будучыню?**

*А.М.* Змагацца - не здавацца !

P.S. "Дзе мала словаў, там вагу яны маюць" У. Шэкспір.

*Гутарылі Альгунька ды Йржавая*
***на здымку:** Андрэй Мялешка*



**Малады Фронт**

віншуе беларускую моладзь са Сьвятам Божага нараджэньня й Новым годам.

## Падзеі ў Горадні.

У Горадні 24 лістапада прайшла акцыя супраціву ,наладжаная апазыцыйнымі сіламі гораду,у якой прыняло ўдзел каля паўтары тысячы чалавек. Пад час акцыі гучалі лёзунгі:За незалежнасьць ,супраць лукашэнкаўскае палітыкі.Напрыканцы акцыі былі спаленыя праекты саюзнае дамовы .У пачатку акцыі былі затрыманыя : Алесь Астроўскі,Уладзімер Рунге-сябры БНФ;Алесь Захараўсябра КХП БНФ. На Алеся Астроўскага быў складзены пратакол ,як на арганізатара акцыі.Пазьней справу Астроўскага перадалі ў пракуратуру.

# Люблю БЕЛАРУСЬ ! То узаемна!

Пароль паўстанцаў 1863 году гучаў увесь час 24 кастрычніка 1999 году ў Сьвіслачы, дзе ўжо тры гады запар сьвяткуецца ў 20-х лічбах кастрычніка Дзень памяці паўстанцаў 1863 году.



У гэтым годзе ў Сьвіслачы было больш за сотню чалавек з розных кутоў Беларусі (Горадня, Слонім, Менск, Ваўкавыск, Берастовіца ды іншыя). Каля магілы Віктара Каліноўскага гучалі прамовы Зьміцера Кісяля, Віктара Трышчановіча, Уладзімера Арлова. Свае вершы прачытала вядомая паэтка Данута Бічэль.

Пасьля ўскладаньня кветак аўтобусы зь людзьмі паехалі да цэнтру гораду, дзе каля помніка Рамуальду Траўгуту да бюста Кастусю Каліноўскаму былі ўскладзены кветкі.

Наступным крокам гэтага падарожжа была вёска Якушоўка, дзе каля падмурка фальварку сям'і Каліноўскіх адбылося ўрачыстае адкрыцьцё шасьцімэтровага вуніяцкага крыжа, прысьвечанага памяці паўстанцаў 1863 году.

Апасьля афіцыйнае часткі адбыўся бардаўскі канцэрт, дзе гучалі сьпевы Віктара Шалкевіча, Касі Камоцкай, Зьміцера Сідаровіча, Андрэя Мельнікава.

**А.М.**

# Белая сьвітка - прыгожы міт

У газэце расейскай эміграцыі "Голас Народа" №12(62) быў надрукаваны артыкул "Белорусские партизаны ( Из прошлого антибольшевитской борьбы)". Канешне прыемна , што расейская эміграцыя адзначае змаганьне беларусаў, але прыкра што ў гэтым артыкуле амаль няма праўдзівых дадзеных.

Большая палова артыкулу прысьвечаная партызанскаму аддзелу "Белая сьвітка". Аўтары сьцьвярджаюць, што гэты атрад дзейнічаў 15 гадоў і налічваў 700 чалавек. Усе спробы чэкістаў выйсьці на сьлед атраду скончваліся няўдачай. Але ж намесьнік начальніка М.Уневіч з-за асабістае помсты перадаў у Віцебскае ГПУ усе пляны разьмяшчэньня партызанаў. І вось узімку 1934 году ў мястэчку Вялічцы чэкісты абкружылі атрад і перабілі яго амаль напалову. Пасьля гэтага "Белая сьвітка" перастала існаваць.

Але ж на тэрыторыі этнаграфічнае Беларусі няма аніякага мястэчка пад назовам Вялічка. Хутчэй за ўсё - гэта скажоны назоў мястэчка Вяліж Смаленскае вобласьці. Гэта папершае.

Па-другое, ніхто зь веліжанаў, што жылі ў той час, ніколі ня чулі пра "Белую сьвітку". Тым больш ніхто ня чуў пра расстрэл 17 студзеня. Затое яны помняць, што на Пакроўскім полі з 1918 году да Другое Сусьветнае Вайны бальшавікі зьнішчылі каля 1000 паўстанцаў і партызанаў.

Па-трэцяе, колькасьць чалавек, пазначаная аўтарамі, зьдзіўляе. Напрыклад, аддзелы Воранава, Тарасава, "Барона Кіта" не налічвалі больш за 40-50 чалавек.

З гэтага вынікае, што гэты артыкул - гэта толькі прыгожы міт. Але ж добра тое, што гэты міт усё ж стварыўся на падставе гераічнага змаганьня беларусаў за Незалежнасьць і Волю.

***Уладзімер***

## "Патрыёты" супраць "хуліганьня"

Самы "патрыятычны" саюз моладзі агучыў сваё катэгарычнае асуджэньне падзеяў 17 кастрычніка ў Менску. "Акцыя супраць экстрэмізму й насільля, за згоду стабільнасьць і мір у рэспубліцы", арганізаваная БПСМ адбылася ў Горадні ў сярэдзіне лістапада. Як паведамілі ў абкаме патрыятычнага саюзу, акцыя была своеасаблівым пратэстам супраць "Маршу Свабоды".

Удзельнікі акцыі былі сагнаныя з усіх школак гораду ( па 50 чалавек ад кожнай ), ПТВ і ВНУ.

Самае цікавае , што бедныя дзеці нават не разумелі дзеля чаго яны павінны былі ў мароз і сьнегапад цягнуцца ў Новы парк.

- Скажыце, калі ласка, што тут адбываецца?

- Ня ведаю, кажуць, што мітынг у падтымку прэзыдэнта.

- Вы падтрымліваеце прэзыдэнта?

- Не, проста нам у мэдвучэльні сказалі, што хто ня пойдзе , атрымае "н/б" у журнал. А мы за пропускі грошы сплочваем.

Як варыянт заахвочваньня да ўдзелу ў мітынгу была таксама пагроза: "... а то пойдзеце лядовы палац чысьціць!"

Усе палымяныя прамовы лідараў БПСМ скончыліся за 20 хвілінаў. Калі вайсковы аркестр пачаў граць "гімн", на месцы мітынгу ўжо амаль нікога не засталося, акрамя толькі дзеячоў ад БПСМ, міліцыянтаў і "людзей ў штацкім".

***Алеся Тарашкевіч***

* * *

## Да нас прыехаў прэзы...

- У каго ёсць ласьцік?- увайшоўшы бяз грукату проста на лекцыю, нечакана запытаўся Ігар Фёдараў, намесьнік дэкана гісторыі ГорДзУ. - Для тых, хто не разумее, тлумачу: ласьцік – гэта сьцёрка. Вы, напэўна ведаеце, да нас прыязджае прэзыдэнт,– давяральным тонам працягваў Ігар Алегавіч, - трэба сьцерці з партаў усе надпісы. Ну ня ўсе, канешне, цыдулкі кшталту "Маша+Коля..." можаце пакінуць ...

Без камэнтару...

***Ганка з Пагулянкі***

# ТЫМ ЧАСАМ ЗА МЯЖОЙ

З 21 па 29 жніўня ў Варшаве й Сьвідне працавала Школа грамадзянскай адукацыі для маладых беларускіх элітаў, наладжаная Цэнтрам Міжнародных Зносінаў з польскага боку й Грамадзкім навукова-аналітычным Цэнтрам "Беларуская пэрспэктыва" зь беларускага. Удзельнікамі Школы былі 20 маладых людзей з розных куткоў Беларусі, сярод іх лідары "Маладога Фронту", "Маладой Грамады", моладзевай часткі беларускага "Яблыка", выпускнікі Народнага Унівэрсытэту.

Асноўнае навучаньне праходзіла ў 70 км ад Варшавы ў мястэчку Сьвідна, куды кожны ранак прыязджалі адныя зь лепшых польскіх выкладнікаў ў сваіх галінах. Сярод іх былі такія, як Стэфан Браткоўскі, які распавядаў як ён і ягоныя сябры змагаліся з камуністычным рэжымам у пэрыяд ваеннага становішча ў Польшчы. Стэфан Браткоўскі акрэсьліў тыя мэтады й спосабы з дапамогай якіх можна працаваць ва ўмовах , калі ў апазыцыі няма доступу да СМІ.

Доктар Томаш Жукоўскі вельмі дакладна й прыгожа распавеў пра выбарчую кампанію. Ён, дарэчы, быў адным з кіраўнікоў перадвыбарчага штабу AWS, якія перамаглі на апошніх парляманцкіх выбарах у Польшчы. Усё палітычнае жыцьцё доктар Жукоўскі прадставіў як тэатар, дзе ёсьць свая палітычная сцэна, ёсьць людзі - "гледачы" й паміж імі СМІ, а за палітычнай сцэнай - кулісы. І структура выбараў у ягонай лекцыі была пабудавана як мэханізм узаемных дачыненьняў залі (гледачоў) са сцэнаю.

Як пераходзіла Польшча ад адміністрацыйнай да рынкавай эканомікі, якія былі цяжкасьці й посьпехі, распавядаў спадар Багдан Выжнікевіч. Галоўнай мэтай Польшча лічыць уваход у Эўразьвяз у 2003 годзе, і гэта вызначае ўсю эканамічную, палітычную ды юрыдычную сыстэму краіны.

Вядома, што ня так даўно Польшча ўвайшла ў NATO. Таму, натуральна, што адной з тэм школы, якую разьвіваў сп. Олаф Осіца была "Новая архітэктура сыстэмы бясьпекі - роля NATO". Наогул, пра NATO было вельмі шмат пытаньняў. Але ж паказальным было тое, што сп. Осіца канстатаваў: "Ведаючы антыNATOўскую прапаганду ў вашай краіне было цяжка прадбачыць іншыя пытаньні".




Вельмі ўразіла лекцыя Рафала Антчака пра расейкі эканамічны крызыс і ягоныя наступствы для Беларусі. Эканоміку Беларусі ведаюць і вывучаюць у Польшчы. Больш таго, яе выдатна выкладаюць – гэта было прыемным.

У Школе былі і практычныя заняткі. Так удзельнікі Школы мелі магчымасьць наведаць рэдакцыю газэты *"Rzeczpospolita"*. Цікавым было тое, што ў розныя часы кантрольным пакетам акцыяў газэты валодалі як палякі, так і замежнікі. На пытаньне, як замежныя ўладальнікі кантралявалі дзейнасьць газэты, мы пачулі, што ніяк, для іх галоўнае – прыбытак. Зараз *"Rzeczpospolita"* – гэта сапраўдны ўзор сучаснае прэсы, вынік добра арганізаванай калектыўнай працы вельмі многіх людзей. Уразіла вялікая колькасьць кампутараў, свая кампутарная сетка, INTERNET у кожнага журналіста, вялікая колькасьць матэрыялаў, фотаздымкаў пра Беларусь.

Адной з галоўных была сустрэча ў канцэлярыі прэм'ера зь міністрам Ежы Марэкам Навакоўскім, які займаецца зьнешнепалітычнымі пытаньнямі. Яшчэ раз уразіла грунтоўнае валоданьне беларускай сытуацыяй, і ня толькі ў сучасны момант, але ж і гістарычнымі аспэктамі нашых праблемаў. Ён з разуменьнем адзначыў, што ніхто, акрамя самых беларусаў не палепшыць нашае жыцьцё. Да рэформаў павінна быць воля грамадзтва. Што датычыцца досьведу й парадаў, то яны (палякі) заўсёды з ахвотаю будуць імі дзяліцца.

Надзвычай цікавай і, як падалося, вельмі кароткай была сустрэча з Яўгенам Ваппай, старшынём цэнтру "Польшча-Беларусь", адным з галоўных дзеячоў беларускай меньшасьці ў Польшчы.

Дарэчы, ў Польшчы пры 40 мільённым насельніцтве 20 тысяч недзяржаўных грамадзкіх арганізацый, а ў нас на 10 мільёнаў пасьля перарэгістрацыі засталося каля 1500. Ёсьць што параўнаць і над чым падумаць.

Дынамічны і насычаны тыдзень ў Польшчы пакінуў шмат пачуцьцяў і думак. Я асабіста ўсьвядоміў, што няма нічога недасягальнага ў гэтым жыцьці. Аднак адных мараў тут мала. Трэба шмат працаваць, каб Беларусь знайшла сваё пачэснае месца ў сям'і эўрапейскіх народаў.

*С.А.*

# «Arche» ды грамадзтва

Перш чым казаць пра сучасны стан грамадзтва трэба адзначыць, што ў яго ёсьць вялікая колькасьць паталёгіяў. Менавіта пра гэтыя паталёгіі даецца інфармацыя ў апошнім за гэты год часопісе Arche№4.

Трэба ўзгадаць,што такое паталёгія.Гэта разьдзел мэдыцыны,які вывучае хваравітыя працэсы ў чалавечым і жывёльным арганізмах. Маленькі артыкул-уступ Паўла Севярынца "Грамадзтва граху" паказвае вельмі асабісты погляд старшыні Маладога Фронту на сучаснае грамадзтва.

"Грэх паражае злаякаснымі ўтварэньнямі ўсе пульсуючыя залозы порыстыя касьцявіны, нэрвовыя клеткі ды найпяшчотнейшыя ворганы пачуцьцяў". Цікавым поглядам на наркотыкі ў любых выглядах мне падаецца артыкул Андрэя Хадановіча "Наркотыкі:гісторыя,склад,дзеяньне". Да наркотыкаў,на думку Андрэя, у грамадзтве адносіцца вялікая колькасьць рэчаў: індыйскія каноплі, галюцынагены, апіяты, какаін ды крэк, лекавыя прэпараты ды іншае. Таксама апісваецца ўзьдзеяньне такіх здаецца звычайных рэчаў, як тытунь ды алькаголь, на чалавека .Рух "хіпі" ды "джанкі" паказваецца з боку ўжываньня наркатычных рэчаў.Наступнаю паталёгіяй грамадзтва складальнікам нумару падаецца "Малы чырвона—зялёны цытатнік усенароднаабранага ППРБ", дзе падаюцца ягоныя выказваньні з 1995 па 1998 год, якія былі дадзеныя розным газэтам, інтэрвію на тэлебачаньні ды г.д...

З цыклю гісторыяў, якія апісваюцца ў "Arche" раіў бы асаблівую ўвагу зьвярнуць на наступных аўтараў ды артыкулы – Жорж Батай "Нябожчык" ды Ірвін Уэлш "Стоўк Ньюінгтан Блюз".

Шатляндзкі пісьменьнік Ірвін Уэлш у сваех творах суадносіць абсурд і рэальнасьць.Як бы аўтарская (літаратурна-ангельская) ды гутарка пэрсанажаў (на эдынбурскім дыялекце)не суадносілася ў творы, але на маю думку, расейская лаянка ламае ўсю сутнасьць твору ...

Вядомы паэт-"правакатар" Славамір Адамовіч у часопісе падае свае "Чарнавікі" – гэта твор пра ягоных кабетаў, каханак ды ня толькі...




Частка твору Адама Глёбуса "Выдавец", здаецца, паказвае асабістае ўяўленьне літаратара й выдаўца Адама Глёбуса .

У часопісе ёсьць таксама лірыка ды філязофія, крытыка ды гуманістыка й шмат іншага .

"Arche" у Горадні можна замовіць: па тэл. ***2-34-68, 72-11-83*** (спытаць Андрэя),-пад час працы "Выставы аўдыё-відэа-кнігапрадукцыі",-у кнігарні "Слова" (па вул. Ажэшкі)

***К.Міхельсон***

# РУБОН!

Глядзі, як певень двухгаловы,
Забіць жадае вершніка,
Здушыць ваярскі дух Пагоні,
Зьнішчыць воя-незалежніка.

Глязі, як трыкалёр пракляты
Жадае зьнішчыць наш штандар,
Як прагне вораг наш закляты
На нас ганьбы адзець цяжар.

Дык не дадзім ваўчыным зграям
Зноў у нашым доме панаваць,
Над нашым зьдекавацца краем
І скарбы нашы рабаваць.

Глядзець ня будзем быццам мышы,
Як каты лезуць з усіх бакоў.
І вершнік зноў свой меч уздыме
І крыкне ворагам: "Рубон!"

***У.Вой***

# ДЗІДА

Мы моцна трымаем дзіду ў руках,
У вачох сьвятло зьзяе паходні,
Зьнішчым мы ўшчэнт застарэлы наш страх,
Веліч і славу мы вернем Пагоні.

Ня кінем мы дзіду пакуль беларус
На Радзіме сваёй будзе жыць у няволі,
Пакуль нясьці вораг нам будзе прымус,
Пакуль не здабудзем мы лепшае долі.

І калі стане вольнай Айчына,
Калі зьнішчым мы рабскі хаўрус,
Складзем мы ваярскія дзіды
І ўскрыкнем "Жыве Беларусь!"

***У.Вой***

# Фотахроніка "Маршу Свабоды" 17 кастрычніка, Менск



*Шэраговыя дэманстранты спакойна ідуць па вуліцах Менску да маста праз Сьвіслач.*



*Амапаўцы пасярод натоўпу зьбіваюць дэманстрантаў.*
*"Безабаронныя" ў шлемах, шчытах ды з гумавымі дубінкамі.*



*На падыходах да пл.Бангалор на здымку бачны натоўп, які цягнецца прыкладна на 2 кілямэтры, што азначае, што людзей, ідучых на Бангалор, было прыкладна 10-15 тысячаў чалавек.*



*На падыходах да масту праз Сьвіслач. Кардон "чарапашкаў-ніндзя". Менавіта так была названая гэтая частка акцыі яе ўдзельнікамі .*



*Першыя шэрагі, як казаў сп.Зімоўскі, "трэніраваныя баявікі". Бачна, што гэта моладзь, якая магчыма яшчэ нават не была ў войску.*





## Беларускі хіт-парад (CD) сьнежань '99

1. Слухай Сваё! - БМА
2. БОНДА "Лепшае"- Каўчэг
3. Narodny Albom- Каўчэг
4. Палац "The Best"- Палац
5. Крыві "Людзям-live"- Каўчэг
6. Новае Неба "Песьні розных гадоў"- Каўчэг
7. Крама "Хто дапаможа нам" - Каўчэг
8. А. Мельнікаў 'Шлях" - Anarchiarec.
9. Камэлот "У краіне талераў"
10. Стерва "Батальёны просят огня"- Grodnostarrecards

Хіт-парад складзены паводле замоваў аўдыёпрадукцыі "Выставы аудыёвідэа-кнігапрадукцыі" г.Горадні

Зьвяртайцеся кожны панядзелак і сераду з 17 да 20 гадзінаў па адрэсе: К.Маркса, 11, (першы паверх) тэл. 72-11-83.

## «НЕЙРАДЗЮБЕЛЬ» НЕ ПРЫЕХАЎ

20 лістапада ў Гарадзенскім Доме афіцэраў павінен быў адбыцца канцэрт вядомага менскага гурта «Нейрадзюбель».

Як паведамлялася ў рэкляме - гурт прэзэнтуе свой новы альбом «Варсінкі ды катышкі». Вялізная прэзэнтацыя гэтага альбому адбылася ўжо ў Менску 16 лістапада.

Але гарадзенскіх прыхільнікаў гэтага гурта чакала зьдзіўленьне. Як паведамілі арганізатары «Клас-клуб» зь Менску, адзін з гітарыстаў гэтага гурта зламаў руку і таму прэзэнтацыі пакуль ня будзе, яна пераносіцца на невядомы тэрмін. У касе Дома афіцэраў заявілі, што канцэрт абавязкова адбудзецца ў гэтым годзе, нягледзячы нават на колькасьць слухачоў, якія прыйдуць пасьля доўгага чаканьня.

***К.Міхельсон***

## «Тры шрубы» ў Горадне

У Горадне 5-6 сьнежня ў кінатэатры «Гродна» адбызаўся рок-фэст «Тры шрубы». Канцэрт быў арганізаваны гуртом «Jungle X-MAS» пры падтрымцы Гарадзенскай філярмоніі.

Распачаў імпрэзу анархапанк-гурт «Кальян». Выступ гурта можна назваць удалым. Хлопцы згралі, у асноўным, сваю новую праграму. «Пойдзем, хлопцы на вайну», «Радыёактыўны сьнег», «Іржавае сонца», «Ска» - гэта толькі частка з выкананых песень.

Гурт-прызэр «Басовішча-98» глядзеўся на сцэне даволі прыстойна й зацікавіў ня толькі прысутных гледачоў, але і прэсу. Можна было ўбачыць, як карэспандэнты розных выданьняў робяць здымкі, бяруць інтэрвію. Наступным выступоўцам быў гурт «Стары Млын».

Асноўнымі прыхільнікамі гурта зьяўляюцца ПТВэшнікі і, як кажуць, «моладзь з працоўных раёнаў». Верагодна, што расейскамоўныя сьпевы гурта «Пива - это если...», «Трусы в полоску» ды іншыя камусьці і спадабаліся, але толькі не прыхільнікам беларускай музыкі...

Першы дзень закрываў менскі гурт «Любоў і спорт». Як вядома, у гурце грае знакаміты гітарыст Алекс Кустоў, таму спэцыфічны хардкор гэтага гурта вельмі ўражваў. Хацелася б, каб гурт яшчэ некалькі разоў прыехаў у Горадню са сваімі сольнымі выступамі.

Другі дзень - 6 сьнежня - адкрыў death-гурт «MEDEA». Зусім яшчэ малады гурт, музыкі якога змянілі ўжо некалькі гуртоў і накірункаў. Непрацяглы выступ гурта перарваўся чытаньнем на беларускай мове купалаўскай паэмы «Курган». (Менавіта гэта азначала ў афішах «сюрпрыз»). Гурт «Hollowed», які граў другім, зьяўляецца гуртом адкрыта скіноўскага напрамку. Усе свае песьні музыкі абавязкова камусьці прысвячалі, што было вельмі неэтычным. Hard-гурт «Куклы» зь Менска выступаў у Горадні ўпершыню, і іх выступ трохі абудзіў ужо стомленых слухачоў.

«Тры шрубы» скончыліся... Але канцэрты надалей будуць працягвацца.

***Андрэй Мялешка***




ІНФАРМАЦЫЙНЫ ВЕСЬНІК ГАРАДЗЕНСКАЕ АРГАНІЗАЦЫІ «МАЛАДОГА ФРОНТУ» ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА НЕПЭРЫЯДЫЧНЫМ ВЫДАНЬНЕМ. НАКЛАД 299 АСОБНІКАЎ.
АДРАС ДЛЯ КАНТАКТАЎ: 230003, ГОРАДНЯ-3, А/С 110. E-MAIL: BUNT.HRODNA@USA.NET
ВЕСЬНІК ВЫДАЕЦЦА ПРЫ САДЗЕЙНІЧАНЬНІ ГА «МАЛАДАЯ ГРАМАДА» І ГГА «РАТУША»